# Самапомач Гатароткас

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 6 (59).
Год VI.
Вільня. 10-га Траўня 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ: Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ Вільня, Завальная № 1.


# Па сьлядох Джымалы

27 красавіка сёл. ў Пазнаншчыне памёр Вайцех Джымала (Drzymała), „уласьнік Джымалавага ваза". Хто такі Джымала і чым праславіўся ягоны „воз"?

В. Джымала гэта просты польскі селянін, які поўкапы з



Гістарычны „Воз Джымалы".

лішнім гадоў таму назад паказаў усяму сьвету, што значыць сапраўды любіць свой край, сваю зямлю. Славіць яго сягоньня за гэта ўсё польскае сялянства. А варта, каб пазнаёмілася з ім і сялянства беларускае.

Прусія, загарнуўшы пад сябе Пазнаншчыну і Памор'е, усімі сіламі старалася панемчыць жывучых там палякоў. Ішло гэта аднак цяжка. Тады ў 1894 г. была заснавана нямецкая адумысловая арганізацыя „Preussischer Ostmarken Verein", нешта ў 'родзе „Стражы Крэсовай". Гэта арганізацыя, апіраючыся на сумысны прускі закон аб асадніцтве, мелася „бараніць" дзяржаву ад „пагражаючай" ёй, а сапраўды — выдуманай „польскай небясьпекі". За гэткую „чуйнасьць" названай арганізацыі, пруская казна не шкадавала ей грошаў, а ўрад успамагаў яе штораз новымі законамі, якія ўсё больш і больш сьцясьнялі палякоў у іх собскай хаце. Калі-ж міма ўсяго гэтага палякі, перадусім сяляне-земляробы моцна трымаліся свайго, тады быў выданы закон, які ня толькі забараняў палякам купляць зямлю, але нават аграніčаў іхняе права будавацца на собскай зямлі. Усё гэта кіравалася да таго, каб выцесьніць польскага селяніна з зямлі, рахуючы, што тады ўжо лягчэй яго і зьнемчыць.

Ведалі гэта немцы, але ведалі й палякі, і таму моцна трымаліся сваей зямлі. Гістарычным-жа прыкладам такой стойкасьці ў абароне роднай зямлі па ўсе вякі і для ўсіх народаў стаўся селянін Вайцех Джымала.

Быў гэта звычайны батрак. Працай і ашчаднасьцяй сваей здабыў ён сабе малы загончык (парцэлю) зямлі. Ня мог аднак дабіцца ад чужых нямецкіх уладаў дазволу на пабудаваньне сабе на' гэтым загончыку хаты. І тут вось уся бяда, якая, дзякуючы стойкасьці характару самага Джымалы, сталася ягонай славай. Быў гэта год 1904-ты. Немцы хацелі выкупіць ад Джымалы ягоны загон, сюлілі яму за гэта вялікія грошы. Джымала аднак на гэтыя грошы ня кваліўся, бо ведаў, што гэта была-б здрада сваей зямлі і першы крок да жабрачай торбы: замест гэтага ён за апошнія грашы купіў сабе *цыганскую буду*, у якой і пражыў доўгія гады. Закон проціў гэтай р у х о м а й буды быў бязсільны. Нямецкая паліцыя пісала на Джымалу бязконцыя пратако-

лы, сыпала штрафы, але выкінуць яго з буды ня мела права, бо гэта ня быў будынак, а толькі рухомы воз, якога закон не прадбачыў. А немцы закон шанавалі. І хоць Джымалаў прыклад упорнай абароны свайго куска зямлі пабуджаў так-жа іншых да вытрываласьці, то немцы аднак закону не нарушалі. Пашана для закону з боку немцаў тым цікавейшая, што не нарушылі яго нават і тады, калі Джымала з засады не плаціў накладаных на яго штрафаў, уважаючы немцаў як бяспраўных валадароў не нямецкіх земляў. Разумелі гэта і немцы, але ў дробязі не ўдаваліся і Джымалавай буды ня рухалі.

Нічога аднак вечнага на сьвеце няма. Прыйшоў час, што і неперамowная, здавалася-б, сіла нямецкая, абапёртая на крыўдзе падняволеных народаў, так-жа заламалася. Перамог яе просты селянін Джымала, перамагла ягоная вера ў закон вышэйшы. Часы зьмяніліся. Джымала стаўся гаспадаром шырэйшага загону і палюдзку збудаванай хаты, а сваю буду ён аддаў у Кракаўскі Барбакан (музэй), дзе яна пад назовам „Воз Джымалы“ мае быць памяткай для будучых пакаленьняў аб тым, як продкі іхнія змагаліся за сваю родную зямлю.

Гэткай ёсьць гісторыя Джымалы і ягонага гістарычнага „возу“.

Над магілай Джымалы ў м-ку Краінскім 29 м. м. было многа людзей. На гэту магілу пасылае свой нізкі паклон і селянін-земляроб беларускі, катораму хлопаты Джымалы хай будуць навукай і жывым прыкладам, як трэба сваю зямлю сапраўды любіць, шанаваць і ахвярна бараніць.

* *
*

У апошняй хвіліне польскія газэты пішуць аб „Скандале над труной Джымалы“: 1. яшчэ ў 1927 г. гістарычную ніўку Джымалы польскія скарбовыя ўлады прадалі з ліцытацыі за падаткі; 2. устаноўка „возу“ ў Кракаўскім Барбакане была на гэтульки бяздарнай, што сам Джымала хацеў яго ўзяць назад, але ня меў за што яго перавязьці (да канца жыцьця быў простым фурманом), а Міністэрства Чыгунак не згадзілася перавезьці яго за дарма. 3. Урэшце **самога „возу“ ўжо н я м а:** апошні раз яго бачылі людзі ў 1929 г. Сяганьня ў Нацыянальным Музэі ў Кракаве ёсьць толькі адна сьцяна гэтага возу.—Тлумачэньні непатрэбныя.

## На выпадак граду і разводзьдзя.

Закон пазьваляе зьменшыць, адлажыць, а нават і скасаваць падаткі з тых гаспадарак, якія пацерпяць ад граду, разводзьдзя ці іншага непрадбачанага няшчасьця. Трэба толькі ў час — найдаўжэй да 14 дзён — паведаміць найбліжэйшыя (у павеце) скарбовыя ўлады аб стаўшымся няшчасьці, падаць аблічэньне шкодаў і, пакліканочыся на арт. 123 закону аб падаткавай ордынацыі з дня 14 лютага 1936 г. (Dz. U. R. P. Nr. 14 poz. 134), прасіць аб прызнаньне льготаў пры сплачываньні падатку. Улады скарбовыя, атрымаўшы гэткае паведамленьне, павінны (Dz. U. Nr. 101, poz. 821, 1934) зараз-жа прыступіць да комісыйнага аблічаньня шкодаў.

## Украінскі „Масласаюз“ у 1936 г.

20 м. м. у Львове адбыўся XXV звычайны Агульны сход цэнтралі ўкраінскага коопэратыўнага малачарства „Масласаюз“. Польскі закон аб коопэрацыі з 1934 г. замкнуў дзейнасьць „Масласаюзу“ ў граніцы трох толькі ўсходне-галіцкіх ваяводзтваў: Львоўскага, Станіславаўскага і Тарнопальскага. На гэтым абшары ў 1936 г. „Масласаюз“ меў сарганізаваных 176 малачарняў, у гэтым 139 вялікіх малачарняў акружных (РМ), якія даставілі 91 мільён літраў малака, атрымаўшы за гэта $10^1/_2$ міл злотаў. Сваім дастаўцом „Масласаюз“ у справаздаўчым 1936 г. плаціў за 1 клг. масла ў сярэднім 2 зл. 43 гр. Апрача прадуктаў малочных (сьвежага малака, сьмятаны, тварагу, масла, яец), вёў „Масласаюз“ яшчэ аддзел птушынага мяса, мёду, рыбных кансэрваў, пячэньняў і аддзел малачарскіх машынаў. Агулам занята ў „Масласаюзе“ 276 працаўнікоў, якім выплачана 465 тыс. зл. Білянсовай надвыжкі (даходу) ў справаздаўчым годзе меў „Масласаюз“ $10^1/_2$ тыс. зл.

## Водныя кнігі.

Паводле закону аб рыбалоўстве, які ўвайшоў у сілу 25 мая 1932 г., найпазьней да 25 мая 1937 г. мусіць быць скончана састаўляньне гэтак званых *Водных Кнігаў*, у каторыя павінны быць упісаны ўсякія правы насельніцтва (перадусім права рыбалоўства) да ўсякіх — цякучых і стаячых — водаў, як тых, што дасталіся сялянам разам з землямі надзельнымі, так і тых, каторыя хоць і асталіся пры дварох, то аднак прыбярэжным сялянам пазволілася лавіць у іх рыбу. Срок заяўленьня ўсякіх правоў да названых водаў мінае 25 мая сёл. Распараджэньне Віленскага ваяводы з дня 17 м. м. заклікае да складаньня заяваў аб правох да ўжываньня водаў гэткіх асоб:

1. хто мае права да рыбалоўства ў рэках і вазёрах, але ня мае на гэта такога дакументу, як гіпотэка, купчая, судовы прыгавор;

2. хто мае права да рыбалоўства ў рэках, якія працякаюць мяжой і не зьяўляюцца ягонай выразнай уласнасьцю;

3. хто мае зямлю з надзелу і права да рыбалоўства ў такіх рэках і вазёрах, якія пры надзеле асталіся пры дварох. Гэткія карыстальнікі з дворных водаў павінны прадставіць дакумант, каторым права лавіць рыбу было ўпісана (могуць гэта быць гэтак званыя „дачныя“, іменны сьпіс асоб надзеленых зямлёй ці які іншы дакумант з губарнатарскай канцэлярыі або ад міравых пасрэднікаў);

4 хто зусім ня мае зямлі, але каму права лавіць рыбу пры надзеле было прызнана.

Аб усіх гэткіх правох можна заяўляць вусна ці пісьменна, складаючы адначасна адпаведныя дакументы. Дзеля даказаньня права да прыватнага ўладаньня водамі, трэба мець навеце арт. 387 Цывільнага Права, якое кажа:

> „Прыналежнасьцю зямлі зьяўляюцца: будынкі, што на іх знаходзяцца,.. млыны, масты, перавозы, заставы, грэблі, рэкі, вазёры, ставы балоты, дарогі, крыніцы, мінэралы.. і г. д.“

А аб праве да ўжываньня ўласнасьці ня менш выразна пастанаўляе арт. 424 таго самага Цывільнага Права, які кажа:

> „На падставе поўнага права да зямлі, уласнік ейны мае права да ўсіх пладоў на ейнай паверхні, да ўсяго, што ўнутры яе знаходзіцца, да водаў, што знаходзяцца ў ейных граніцах“..

Тыя асобы, правы якіх будуць прызнаны, павінны будуць за ўпісаньне гэтых правоў у *Водную Кнігу* заплаціць 10 зл. і ад кожнага далучанага дакументу па 50 грашоў. Хто ў час гэтага не заплаціць, ад таго належнасьць будзе сысківацца прымусам.

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## Глебу трэба высьпеліць.

Аднэй з прычын штогодніх блізка неўраджаяў на найлепшых нашых грунтох (перадусім у Браслаўшчыне і Дзісеншчыне) ёсьць іх *нізкая культура.* Гэта знача, што наш земляроб ня ўсё тое робіць, чаго гэта глеба вымагае. А ня робіць дзеля таго, што ня ведае і што ня мае адпаведняй да гэтага снасьці.

Пакуль чалавек наш вырабляў толькі самы верхні пласт зямлі (да 5 цаляў), датуль досыць было сякога-такога плуга, бараны, а спружынны культыватар гэта ўжо ўважаўся і ўважаецца за „апошні крык моды“. Гэтай снасьці хапала на тое, каб баразну адвярнуць і сяк-так раскрышыць. Ад таго часу аднак, калі пачалі людзі адварачываць плугам штораз глыбейшыя ськібы, ні звычайная, ні нават спружынавая барана справіцца з гэтымі ськівамі ўжо ня можа. Тут патрэбна ўжо нейкая іншая снасьць, якая ня толькі крышыла-б і распыляла-б засушаную земляную ськіву, але якая гэтыя пакрышаныя часткі нанова ўкладала-б у плодародную суцэльнасьць. Такой снасьцю ў вялікіх паступовых гаспадарках ёсьць *вал Кэмпбэль'а.* Але гэты вал служа толькі да раскрышваньня і ўтоптываньня баразьняных ськіваў і—што можа для дробных гаспадароў найважнейшае — вельмі дарагі. Далёка прыступнейшым па сваей цане і здольным да шырэйшага ўжываньня ёсьць гэтак званы *вал кальчатковы,* які мае шмат формаў. Зубы гэтага валу ўпіхаючыся ў зямлю ня толькі робяць у ёй лейкаватыя дзюры ў грубіню самага зуба, але расьпіраюць і крышаць ссохлыя камы баразьнянай ськівы, а разам з тым сьціскаюць пакрышаныя часткі глебы ў адно цэлае, ці як кажуць „асаджваюць“ глебу: расьліна можа ў ёй зараз-жа закарэньвацца і даставаць сыспаду грунтавую ваду. — Другая карысьць кальчаткавага валу ў тым, што яго можна ўжываць дзеля прапомліваньня засохлай зьлітай скарынкі глебы нават над неабыйшоўшымі йшчэ засевамі. Важна гэта вельмі асабліва для гаспадарак садзячых больш акопнін (буракі) і наагул пашных расьлінаў.



**Вал — кальчатка**
хатняй работы, паводле праекту праф. Беджыцкага.

Адзінай ад'емнай стараной фабрычных кальчатак ёсьць іхняя высокая цана (больш 200 зл.). Таму вельмі на часе будзе пазнаёміцца з вырабам кальчаткі хатнім (з помаччу каваля) спосабам, так, як гэта апісаў нябожчык сягоньня ўжо праф. С. Беджыцкі. Восьь ён:

Бяром адрубак сасновага (а йшчэ лепш дубовага) пня, даўжыня якога напр. 1 м. 10 см., а грубіня (дыямэтр) 30 см. Да гэтага бяром восем жалезных ліштваў — могуць гэта быць старыя шыны з калёс — таксама па 1 м. 10 см. у даўжкі. У кожную такую шыну запускаем на глуха па сем вострых жалезных зубоў, больш-менш такога разьмеру, як зубы жалезнай бараны. Зубы гэтыя разьмяшчаем што 16 см.; пры гэтым першы зуб убіваем на 5 см ад пачатку ліштвы— тады апошні зуб выпадзе на 9 см. ад канца тэй-жа ліштвы. Гэта важна!

Калі ўжо зубы ў ліштвы запушчаны, прыступаем да накладаньня гэтых „зубатых“ ліштваў на вал. Наўперад на гладкім дагэтуль вале выразаем раўкі, у каторыя і запускаем ліштвы, прыбіваючы іх там моцнымі цьвякамі, а йшчэ лепш — прышрубоўуючы шрубамі. А тут увага: укладаць на вал ліштвы трэба з такім вырахаваньнем, каб сьлед на ральлі папярэдняга зуба трапіў пасярэдзіне двух зубоў наступнай ліштвы: калі адну ліштву кладзём тым канцом, пры каторым зуб сядзіць блізка (5 см.), дык другую — наадварот, тым, пры каторым зуб сядзіць далей (9 см.). Прымацаваўшы ўсе ліштвы да валу, на абодва ягоныя канцы накладаем жалезныя абручы, убіваем у іх воські (чопы), дадаём раму, за каторую ўпрагаецца жывёла і валкальчатка гатовы!

Каб аціаніць працу кальчаткі, ня можна верыць сваім толькі вачам, якія прывыклі бачыць ральлю збаранаваную. Тут трэба праўсьці поле за кальчаткай босай

---

Інж. Ад. Клімовіч.

## Асновы земляробскай эканомікі.

4)

Купле-прадажная вартасьць зямлі ёсьць вартасьць абсалютнай, а прыбытковая — адноснай. Прыбытковая вартасьць зямлі гэта такая сума грошаў, якую трэба было б палажыць у банк, каб мець з іх гэтулькі працэнту, колькі дадзены кусок зямлі дае даходу. Пагаспадарску рахуючы, ацэньваньне зямлі паводле вартасьці прыбытковай больш справядлівае, бо адпавядае сапраўднай ейнай вартасьці, тады як ацэньваньне паводле вартасьці купле-прадажнай часта залежа ад выпадку (купля суседняй зямлі, купля з ліцытацыі), або ад густу і ахвоты валадаць куском зямлі „для забесьпячэньня старасьці.“

З валаданьнем капіталу зямлі звычайным парадкам спалучаны бягучыя выдаткі толькі на апрацэнтаваньне і падаткі. Працэнт ад капіталу ўложанага ў куплю зямлі ня можна лічыць высока, бо тут рызыка, можна сказаць, найменшае: зямля ані згарыць ані яе хто ўкрадзе. Таму на апрацэнтаваньне капіталу зямлі рахуюць толькі 3, найбольш $3^1/_2$ проц.

Падаткі ад зямлі і ўсякія да гэтых падаткаў дадаткі ў розных краёх бываюць розныя. Правілам ёсьць, каб гэтыя падаткі не перавышалі $^1/_4$ проц. уложанага ў зямлю капіталу. Нажаль, сягоньня з гэтымі гаспадарскімі вымогамі мала хто рахуецца.

**Капітал мэліорацый.** Мэліорацыя гэта больш-менш трывалае зьлепшаньне ўраджайнасьці глебы на цэлы рад гадоў. Гэткая мэліорацыя ў штодзеннай мове звычайна азначае толькі ўрэгуляваньне вогкасьці (вільгаці) ў глебе, наўперад як асушэньне. Мэліорацыяй аднак таксама ёсьць і такое палепшаньне глебы, як навязеньне тарфяністай глебы пяском ці наадварот, зраўнаньне капцоў на паверхні глебы, выпраставаньне граніц, падзел грунтаў сумесных і г. д. — Кожнае мэліораваньне грунтаў вымагае наперад выдаткаў, якія памалу толькі вяртаюцца ў форме большых ураджаяў.

Ацэньваецца капітал мэліорацыі паводле вартасьці *вытворчай* (колькі каштавалі ўсе ўстройствы мэліорацыяў) або *прыбытковай* (на колькі павялічылася ўраджайнасьць зьмэліораванага куска глебы).

Уладаньне капіталам мэліорацый спалучана з такімі бягучымі выдаткамі, як: працэнт, амортызацыя і рэмонт.

Капітал уложаны ў мэліорацыі апрацэнтоўваецца па 4%. — Прынята рахаваць, што раз заложаныя

# Сьцеражэцеся канянкі!

Канянка, інакш ведамая як павіліка, гэта небясьпечны вораг перадусім канюшыны, хоць нападае яна на віку і іншыя пашныя расьліны, а нават на лён. Ёсьць шмат сартоў канянкі. Мы тут колькі слоў скажам аб канянцы канюшыннай.

Аб небясьпецы гэтага шкодніка сьведчыць хоць-бы тое, што з аднаго каліва дасьпявае аж паўтраця тысячы зярнят. А калі да гэтага дадаць яшчэ, што канянка размнажаецца ня толькі з насеньня, але таксама і з карэньня, дык небясьпека яе станецца яшчэ больш зразумелай.

Як выглядае і чым шкодзіць канянка?

Канянка гэта ніткавідная расьліна, якая самастойна расьці ня можа і расьце толькі тады, калі ў суседстве з ёй знайдзецца канюшына: тады канянка абкручваецца ўвакруг канюшыннага каліва, упіваецца ў яго пры помачы сумысных вузельчыкаў, якімі сьсе сокі з свае ахвяры і гэтак стала пнецца ўверх, як гэта паказана на далучаным абразку.

Канянка шкодна ня толькі тым, што псуе ўраджай, але й тым, што засьмячае поле на некалькі гадоў наперад: ейнае насеньне доўга можа пралежыць у зямлі і пасьля абыйсьці, як толькі дастанецца бліжэй да верху. Ня траціць гэта насеньне сваей усходлівасьці і ў страватраўчым апараце жывёлы (у кішках, у трыбусе): таму поўна насеньня канянкі ў гнаі дзікіх птушак (жаўранкі, галубы), а так-жа ў гнаі хатняй жывёлы, якая кармілася канюшынай, перамяшанай з канянкай.

і наступае засьмячэньне поля на наступныя гады.

Барацьба з канянкай ня лёгкая. Найважнейшая рэч, каб яе ня было ў пасеўным насеньні, перадусім у канюшыне. Іншай рады на гэта няма, як купляць насеньне ў паважных крамах, якія ручаюць на

**Канянка на канюшыне**




1. Канюшына аплеценая канянкай (*а* — вузельчыкі, якімі канянка прысысаецца да канюшыны); 2. насеньне канянкі з-пераду, павялічанае; 3. — з боку; 4. — насеньне канянкі ў перарэзе; 5. плод канянкі з 4-ма зярняткамі (насеньнямі); 6. насеньне канянкі натуральнай вялічыні; 7. прарастаючае насеньне канянкі.

З зярняці канянкі выклюваецца спачатку карэньчык, а пасьля толькі сьцібло, якое зразу шукае сабе „апоры“, а калі яе ня знайдзе, дык гіне. Ніткавіднае сьцібло канянкі ніколі зялёным ня бывае, ня мае яно і лістоў, а цьвісьці пачынае толькі ў чэрвені, калі добра ўжо закарэніцца і закусьціцца. Цьвіце канянка сьветла-ружова, а ў пачатку м-ца жніўня пачынае даваць сьпелае насеньне — па 4 зярняці ў аднэй галоўцы. У гэту пару

пісьме за чыстату свайго тавару. А калі так станецца, што ўсё-ж канянка на полі ў канюшыне абойдзе, дык у імя абароны поля ад засьмечанасьці на колькі год, трэба канешна рашыцца раз на „опэрацыю“: усюды, дзе толькі пакажыцца канянка, нізка пры зямлі скасіць усю траву, старанна сабраць і спаліць. Калі выпадкам найменшы кусочак гэтага пустазельля астанецца на зямлі, дык з яго можа нанова вырасьці цэлае

---

нагой з кійком — гэтак радзіць той-жа нябожчык Беджыцкі — каб адчуць (нагой і кійком) ці ральля роўна на ўсім полі асела. Тады толькі будзе яна сапраўды сьпелай і здольнай да ўраджайнасьці.

*С. Я—віч.*

---

дрэнажныя трубкі на сенажаці праслужаць 33 гады, а на ворным полі — 50 гадоў. Дзеля гэтага на амортызацыю коштаў змэліораваньня сенажаці штогод трэба адлічаць 3 прац., а на амортызацыю мэліорацыі ворнага поля—2 прац. уложаных у гэта коштаў.— Урэшце кошты рэмонту: у мэліорацый на сенажацях рахуецца ў сярэднім 1 прац. ад нававартасьці, а ў мэліорацый ворнага поля — $^1/_2$ прац.

**Капітал будынкаў.** Адразу і выразна трэба зазначыць, што капітал будынкаў у нашых варунках вельмі непрадуктыўна абцяжвае гаспадаркі; тым цяжэй, чым гаспадарка драбнейшая і чым большая часьць будынкаў служыць як жылое памешканьне для гаспадара з сям'ёй. Як гаспадарскія будынкі прынята рахаваць: памешканьне для гаспадара з сям'ёй і памацнікамі, хлявы, гумны, адрыні, сыпкі, студні, гнайнікі, панадворкі, муры і дарогі.

Уладаньне капіталам будынкаў зьвязана з гэткімі выдаткамі: працэнт, амортызацыя, рэмонт, страхоўка і падаткі.

Небясьпека зьнішчэньня капіталу будынкаў большая, як у капіталу зямлі, таму й апрацэнтаваньне яго павінна быць вышэйшае (4 прац.). Вышка амортызацыі будаўлянага капіталу залежа ад таго, які гэта будынак і як хутка ён зношываецца. Лёгкія будынкі хутчэй зношываюцца, як цяжкія (мураваныя), хлявы хутчэй, як будынкі памешкальныя ці адрыні, сьвірны. У сярэднім на амортызацыю капіталу будынкаў у год трэба адпісваць ад $^1/_2$ да 2 прац., ці йнакш кажучы, капітал будынкаў у год траціць на сваей вартасьці $^1/_2$ да 2 прац.; калі напр. будынак каштаваў 1.000 зл., дык праз год ягоная вартасьць абніжыцца на 5—20 зл. (да 980—995 зл.). — Кошты рэмонту бываюць вельмі няроўныя і ў першую чаргу залежаць ад способу ўжываньня будынку: у сярэднім рахуюць на амортызацыю 1 прац. ад сучаснай вартасьці будынку. — Паняцьце страхоўкі ў нас так нешчасьліва ўлажылася, што большасьць людзей нашых разумее яе як найцяжэйшы падатак, у той час як у культурных старонках гэта ёсьць складка добравольная. Пры нормальных варунках складка на страхоўку будынку ад агня не павінна быць большай, як 0.2 прац. (20 грашоў ад 100 зл. сучаснай вартасьці будынку). Натуральна, вышыня складкі залежа ад таго, ці будынак стаіць на асабняку ці разам з іншымі, з чаго ён збудаваны, чым крыты, ці ёсьць у суседзтве дрэвы, вада і г. д. — Аб падатку ад будынкаў у нашых вясковых варунках тымчасам яшчэ сказаць можна мала. Усе разам г. зв. бягучыя кошты ўтрыманьня будынку выносяць у год каля 7 прац.

**ПАВЕДАМЛЯЕМ**, што ад наступнага нумару стрымаем высылку „Самапомачы“ і Вам, калі зараз-жа не аплаціце належнай ад Вас складкі (падпіскі).

*Адміністрацыя «САМАПОМАЧЫ».*

пакаленьне шкоднікаў новых. Для большай пэўнасьці радзяць выкопываць ня толькі самую засьмечаную канюшыну, але й найменш мэтр далей ад таго месца, дзе апошняе каліва канянкі было заўважана.

Калі-ж канянка разраслася па цэлым полі, тады няма іншай рады, як усю канюшыну скасіць найпазьней у пару цьвету канянкі, каб ня высеменілася, поле зааракь і прынамся праз чатыры-пяць год сеяць расьліны, якія буйна растуць і добра заценьваюць глебу: белая гарчыца, грачыха, акопніны (бульба, буракі, морхва) і г. д.

Апрача канюшыны, расьце канянка і на такім пустазельлі, як асот, крываўнік, васількі і інш.: усё гэта, а так-жа й іншае пустазельле, што расьце на межах, трэба старанна нішчыць: яны ня толькі самі забіраюць месца, сьвятло, спожыў расьліны культурнай, але йшчэ хаваюць ейнага ворага — канянку.

А. С.

## Дрэвы каля дарогі і каля хатаў.

Ці-ж трэба йшчэ каму даказваць, як важным ёсьць абсаджваньне дрэвамі дарог і гаспадарскіх забудаваньняў?! Нічога на гэтым ня зьменяць нават дзікія навыкі тых неакелзаных псотнікаў, што ні з сяго ні з таго гэтыя дрэўцы нішчаць. Не сягоньня — заўтра а прыйдзе той час і ў нас, калі дрэваў прыдарожных ніхто чапаць ня будзе, як гэта дзеецца сягоньня ўжо ў культурнай заграніцы. Але пакульшто з гэтымі дзікімі навыкамі рахавацца трэба і прынамсі не садзіць такіх сартоў дрэў, якія слабыя натуры да праступства кусяць: не садзіць дрэваў фруктовых, бо ў нас поўна йшчэ такіх распусьнікаў, што дзеля жмені вішняў, сьліваў ці двух-трох яблыкаў гатовы абламаць цэлыя галіны найцаньнейшых дрэваў, а пасьля йшчэ гэтым бязстыдна хваліцца.

Дык чым тады высаджваць на шы дарогі?

На мокрых мясцох толькі вольху. На сухіх — найлепшай ёсьць *белая акацыя,* бо ўсюды й хутка расьце, лёгка прыжывае і вельмі карысна для пчол. Добрай ёсьць так-жа і бяроза. На землях сярэдніх: каштан, клён, явар; на цяжкіх — ліпа.

Каля будынкаў трэба садзіць дрэвы з густой і шырокай каронай: ліпа, ясень, рабіна, каштан, клён. Бароняць яны страху ад вятроў і ад пажару.



*Kutok dla haspadyniaŭ*

## Harbuzy.

Harbuz abo kavon (*citrillus vulgaris*) jość vielmi karysnaj aharodninaj, bo akramia samaj miazdry, z jakoj pryhataŭlajucca šmat smašnych i pažyŭnych ludzkich stravaŭ, z ziarniat harbuzovych pryhataŭlajecca cenny i smašny alej. Dy naahuł spažyŭnyja vartaści harbuza davoli dobra viedamyja. Mienš viedamy vymahańni harbuza: jak i dzie jaho sadzić? Što jon lubić i čaho baicca?

Ahułam kažučy harbuz jość raślinaj ciopłych, sonięčnych krajoŭ i tamu ŭ nas jon udajecca daloka nie zaŭsiody: na dobry ŭradžaj harbuzoŭ možna spadziavacca tolki ŭ leta s u c h o j e. Z taho što harbuzy lubiać dobra prahretyja i bahata vyhnajenyja hrunty, vynikaje, što sadzić ich treba na sonięčnych, ciopłych hnojnymi zapasami zabiaśpiečanych miascoch. Praktyčna biaručy, najlepš vysadžvać harbuzy na absypanych ziamloj kampostavych kučach, abo na takoj-ža ziamloj absypanych kučach pieraprełaha hnoju: sami harbuzy na takich miascoch majuć dobraje miesca, a listami svaimi jany bierahuć hnoj ad strataŭ cennaha azotu.

Kali niama ŭ haspadarcy ni kučaŭ pieraprełaha hnoju, ni kampostu, dyk miesca pad pasadku harbuzoŭ pryhataŭlajecca hetak:

Najlepš na paŭdzionnym skłonie jakohaś kasahoru — choć možna i na raŭninie — vykopyvajucca jamy na 50—60 cm. u hłybku i ŭšyrku, nakładajecca ŭ ich konski hnoj, jaki prykryvajecca paśla ziamloj. Na hetkuju jamu ŭ kancy maja vysadžvajucca 2—3 kalivy harbuzovaj rasady, a kali takoj niama (a škoda!), dyk

Ацэньваюцца будынкі ў сялянскіх варунках паводле вартасьці вытворчай або купле-прадажнай. Вытворчая вартасьць новага будынку абыймае сабой вартасьць будаўлянага пляцу і ўсіх коштаў будаўляных (пляны, рахункі, куплёны і свой собскі матарыял, праца, дагляд, фурманкі і інш.). Вартасьць будынкаў старшых выраховуваецца адлічэньнем ад новавартасьці тае часьці вартасьці, якая „знасілася“.

Напр. нейкі будынак новы каштаваў 800 зл. — якая ягоная вартасьць па 10 гадох, калі цана пляцу будаўлянага 100 зл., а сам будынак можа прастаяць 40 гадоў? — Рахуем гэтак: калі новы будынак каштаваў 800 зл. і прастаяць мае 40 гадоў, дык у год ягоная вартасьць абніжыцца больш-менш на 20 зл. ($800 : 40 = 20$), а за 10 гадоў — у 10 раз больш ($20 \times 10 = 200$) ці на 200 зл. Адыймаем цяпер гэтых 200 зл. ад нававартасьці (800 зл.) і дадаём нязьменшаную (звычайна) вартасьць будаўлянага пляцу 100 зл.; атрымаем вартасьць будынку на сяньняшні дзень 700 зл. — Цэласьць абрахунку прадстаўляецца гэтак:

$$800 - (10 \times \frac{800}{40}) + 100 = 700 \text{ зл.}$$

Ацэнка будынку паводле вартасьці купле-прадажнай апіраецца на прыцэньваньні да цэнаў плачаных у сучасную пару „на рынку“. Урэшце паводле вартасьці прыбытковай ацэньваюцца часта дамы і будынкі здаваныя ў арэнду.

**Капітал расьлінаў.** Сюды належаць: садовыя і лесныя дрэвы і кусты, траварост на сенажацях і пасьбішчах і ўсё засеенае на палёх і агародах. У параўнаньні з іншымі капіталамі земляробскай гаспадаркі капітал расьлінаў (таксама як і капітал жывіны) да пэўнага часу стала ўзрастае, а пасьля апускаецца. Уладаньне капіталам расьлінаў зьвязана з наступнымі бягучымі выдаткамі: п р а ц э н т, а м о р т ы з а ц ы я і с т р а х о ў к а. Працэнт ад капіталу ўложанага ў расьліны лічыцца 5 ад 100, бо расьлінам пагражае шмат небясьпекаў: расьлінныя і жыватворныя шкоднікі, маразы, град і г. д. — Пасевы не амортызуюцца, а дрэвы і кусты амортызуюцца аж да вартасьці дрэва на апал ад тае пары, калі іхняя вартасьць пачынае ападаць. — Страхуюцца звычайна ад граду толькі збожжа, далей — лён і ўсякая садовіна. Страхавую складку аблічаюць страхавыя супалкі на падставе статыстыкі аб градабіцьці ў дадзенай аколіцы. Найменшая складка плаціцца за азіміны і ярыну (2—3 прац.), а найбольшая за садовіну (12 прац.).

Ацэньваецца капітал расьлінаў паводле вартасьці вытворчай або прыбытковай.

Чым больш ў гаспадарцы капітал расьлінаў, тым больш даходнай лічыцца гаспадарка.



hetulki-ž harbuzovych ziarniatak. Pakul rasada zakarenicca, možna jaje padlić, ale naahuł harbuz padlivańnia nie vymahaje, a ŭ paźniejšym časie takoje padlivańnie jamu navat škodzić — hnije. Tamu navat treba staracca abrezvać tyja listy, jakija zacieńvajuć ad sonca šmnuravidnaje ścibło harbuza, asabliva pry samym karani, a kab nie pahnili samyja zaviazi harbuzoŭ, pad ich padkładajucca płoskija kamieńni, dachoŭki ci choć-by navat doški.

Daśpiavajuć harbuzy ŭ poznuju vosień. Śpiełу harbuz paznajecca pa tym, što kali jaho silna ścisnuć u rukach, dyk čuvać charakterny dla harbuza šelest.

Z hatunkaŭ harbuza, jakija jšče ŭ nas mohuć vyśpielicca, treba zapamiatać čyrvona-miasnyja harbuzy rasiejskija i astrachanskija.

*M.*

## Hnajeńnie vazonaŭ.

Vazon, jak i kožnaja raślina, patrabuje stravy, jakuju musić znajści ŭ hlebie, u katoraj siadzić. A dziela taho, što zapasy hetaj stravy ŭ vazonnaj hlebie z časam taksama vyčerpyvajucca, dyk ich treba dapaŭniać, najlepš u formie štučnych hnajoŭ. Tolki hetak dahledžany vazon budzie dobra raści i pryhoža ćviści.

Kab vazonnaja raślina mahła vykarystać dadzienaje jej uhnajeńnie, jaje treba dobra palić vadoj, u katoraj raspuściacca prydadzienyja hnai. Najlepš hnaić u pachmurnyja dni; horš — u dni sonięčnyja. Druhim praviłam jość — hnaić raślinu zdarovuju. Chvory vazon treba kaniečna pierasadzić, ab čym my pisali ŭ apošnim numary „Samapomačy".

Roznyja vazony vymahajuć roznych uhnajeńniaŭ. Najčaściej spatykanyja pelargonii i chryzantemy hnojacca rastvoram, pryhatavanym u hetkaj praporcyi: na 10 litraŭ vady 20 hram čylijskaj saletry, 10 hr. 40 prac. patašavaj soli, 10 hr. superfosfatu. Cyklameny, kamelii, azalki, prymuli i vialika-kvietnyja begonii hnojacca hetkim rastvoram: 10 litraŭ vady, 10 hr. čylijskaj saletry, 5 hr. 40 prac. patašavaj soli i 5 hr. superfosfatu.

*БЕЛАРУСЫ! Шануйце сваё роднае друкаванае слова. Прачытаную „Самапомач" ня нішчыце, але дайце прачытаць сваім суседзям, знаёмым. Прысылайце падпіску. Пішэце ў рэдакцыю — Вільня, Полацкая 4-9 аб сваім жыцьці і аб тым, што — па Вашаму — трэба было б у «Самапомач» дэдаць, а што выкінуць ці паправіць. Падавайце выразна свой адрэс.*

## ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

*У справе сплаты даўгоў.* У „Dz. U. № 30, 1937" зьявілася распараджэньне Прэзыдэнта з 14.4. 1937 г. аб спосабах сплаты прыватных пазычак, узятых земляробамі прад 1 ліпня 1932 г. Гэта распараджэньне датыча толькі земляробаў катэгорыі „А" (якія маюць менш як 100 га зямлі), і пазваляе ім сплачываць даўгі палавінай іх номінальнай вартасьці, з тым, што даўгі гэтыя разложаны на часьці з моцы самага права або Разьемчым Урадам і сплачываюцца гатоўкай прад азначаным у разсрочцы тэрмінам (срокам), аднак не пазьней як 31.XII.1940 г. — Напр., нехта пазычыў у суседа прад 1.VII.1932 г. 100 зл. і даў яму на гэта вэксаль. Хочучы сплаціць гэты доўг сягоньня прад срокам праўна ўстаноўленым, можа даўжнік замест 100 зл. заплаціць толькі 50 зл. (палову!) і жадаць звароту вэксалю. Калі-ж крэдытор на гэта ня згодзіцца, тады даўжнік можа палажыць гэтыя 50 зл. як дэпозыт (залог) у судзе і доўг свой рахаваць поўнасьцю сплачаным. Залог складаецца ў тым судзе, які названы быў у умове аб пазыцы. А калі аб гэтым у ўмове нічога не ўспаміналася, або і самой умовы ня было, дык залог трэба палажыць у тым судзе, у абводзе каторага жыве даўжнік.

*Цэны на цэглу* падыймаць забараніла ўрадавая Камісія ў Наваградку на паседжаньні 21.IV, хоць і прызнала, што кошты вытвор часьці сёлета большыя, як летась. Зрабіла гэтак, „каб не запыняць будаўлянага руху". — Можа гэта й добра, але тады тымбольш трэба забараніць падыймаць цэны на будаўляны матарыял у казённых лясох.

*Помач для хутароў у Віленшчыне.* Міністэрства Земляробства прызнала, як доўгасрочную пазычку, 292.000 зл. на мэліорацыю (асушку) тых грунтоў на абшары Віленшчыны, якія сёлета йдуць на хутары. Тымчасам з гэтай пазыкі будуць рэгулявацца рэкі: Уша, Цьвеценьб, Беразоўка, Вята, Голчыца і Храбраўка. На работах будуць заняты турэмныя вязьні.

*На заработкі ў Эстонію.* Пасьля Латвіі і суседняя Эстонія ў канцы мін. м-ца выслала свайго чалавека на Віленшчыну, каб тут наймаў работнікаў на гаспадарскія работы ў летнім сэзоне.

*„Праца і Культура Вёскі".* Пад гэткім клічам у ведамым з сваіх кооператыўных прадпрыемстваў польскім мястэчку *Ліскув* (каля Калішa, чыг. ст. Oratówek), арганізуецца сёлета ад 8 чэрвеня да 4 ліпня вялікая земляробская выстаўка, з аддзеламі гаспадаркі польнай, гадаўлянай, агародніцкай, пчалярскай, коопэратыўнай і наагул культурнаасьветнай.

Гэтая праектаваная выстаўка ў Ліскаве ёсьць ужо выстаўкай другой. І гэтым разам напэўна будуць арганізавацца калі ня зусім дык блізу дармовыя паездкі на выстаўку і з нашых сёл і мястэчак. Не адно на гэтай выстаўцы можна будзе пабачыць цікавае. Кожнаму аднак трэба ведаць, што праўдзівая дзівуголная самадапамаговая праца ў гэтай вёсцы цьвіла ўўпару паняволеньня Польшчы, калі ўсё будавалася сваімі собскімі сіламі, найчасьцей супроць волі і загадаў акупанцкіх, расейскіх і нямецкіх, уладаў.

*Новыя багацьці на Палесьсі.* У аколіцах Давідгарадка выкрыты вялікія запасы каоліну (белай гліны) і алюмінія. Знаўцы аблічаюць гэтыя запасы на 1.600.000 тон. У адкрытых запасах аблічаюць 48 проц. чыстага каоліну і 39 проц. алюмінія—нігдзе ў Польшчы гэтак багатых запасаў каоліну і алюмінія няма. — Побач з гэтымі запасамі ёсьць многа торфу, (да 55 міл. куб. м.), з каторым можна было-б пачаць эксплёатацыю каоліну і алюмінія.

*200 зл. штрафу* налажыў Беластоцкі Гарадзкі Староста на старшыню новазаснаванага Коопэратыўнага Т-ва Працаўнікоў Беларускага Тэатру „Полымя" ў Беластоку гр.-ку Абуковіч затое, што ўправа гэтай коопэратывы не папрасілася ў час аб дазвол ад старасства, які прадбачыць новым законам аб коопэрацыі.

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *7.V.37 за 100 кл.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . . | 23.50—24.50 |
| Пшаніца . . . . . . | 30.75—32.00 |
| Ячмень . . . . . . . | 21.75—23.00 |
| Авёс . . . . . . . . | 20.75—22 25 |
| Грачыха . . . . . . . | 27.50—28.00 |
| Лён трапаны (1 000 кілё) | 1.820—1.860 |
| Лён часаны . . . . | 2.060 2.100 |
| Кудзеля . . . . . . . | 1.700 1.740 |

**Малочнае,** *7.V.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | —3.50 |
| „ „ дэталь | —3.80 |
| Масла сталовае гурт . | —3.40 |
| „ „ дэталь | —3.70 |
| Масла соленае, гурт. | —3.40 |
| „ „ дэталь | —3.70 |
| Сыр эдамскі чырв., гурт. . | —2.10 |
| „ „ „ дэталь | —2.55 |
| „ „ жоўты, гурт | —1.75 |
| „ „ „ дэталь | —2.20 |
| Сыр літоўскі гурт . | —1.45 |
| „ „ дэталь | —1.70 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 3.00—3 90 |
| „ ў дэталю за штуку | 6 гр. |

# КАМУНІКАТ
## Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.

Згодна з арт. 14 Рэгуляміну Бел. Нац. Камітэту гэтым апавяшчаецца абнаўленьне Беларускага Нацыянальнага К-ту на 1937—38 год.

Беларускія арганізацыі і інстытуцыі, згодна з арт. 3 Рэгуляміну Б. Н. К-ту, павінны выдэлегаваць сваіх прадстаўнікоў у Беларускі Нацыянальны Камітэт — палітычныя арганізацыі па трох, а ўсе іншыя па двух і паўнамоцтвы дэлегатаў прадставіць Прэзыдыюму Камітэту да дня 15 траўня сёлета ўключна.

Тыя арганізацыі і інстытуцыі, якія да Беларускага Нацыянальнага Камітэту дагэтуль не належаць,але жадаюць прыняць учасьце ў гэтым агульна-беларускім нацыянальным прадстаўніцтве, павінны да 15 траўня сёл., згодна з арт. 5 Рэгуляміну Б. Н. К-ту, падаць Прэзыдыюму Камітэту свае заявы і кандыдатаў.

**Прэзыдыюм Беларускага Нацыянальнага Камітэту**

(—) *Інж. А. Клімовіч*
Старшыня

( -) *Інж. Л. Дубейкаўскі*
І-шы Віцэ-Старшыня

(—) *Мгр. М. Шкялёнак*
ІІ-гі Віцэ-Старшыня

(—) *Др. Ст. Грынкевіч*
Скарбнік

( ) *Я. Пазьняк*
Сакратар.

Вільня, 5.V.1937.

# Што чуваць на сьвеце

## Дзеляць Эўропу.

Лёндынскі „Economist“ піша, што Нямеччына цяпер дагаварываецца з Італіяй аб падзеле ўплываў на паўдзённы ўсход Эўропы, імкнучыся гэтак да свайго прадвеннага сну аб лініі Бэрлін-Багдад. Нямеччына пры гэтым быццам сілком мела-б заўладаць Чэхаславаччынай, Румыніяй і Украінай, а Італія мела-б зьвязаць з сабой Югаславію, Мадзяршчыну і Баўгарыю. Каб забясьпечыцца ад Францыі і Англіі, Нямеччына была б гатова падпісаць з імі гэтак званую заходнюю ўмову аб захаваньні міру (на Захадзе) і на нейкі час прыціхнуць з дамаганьнямі ад Англіі заморскіх калёніяў. А калі-б на гэта ня было згоды, дык немцы пагражаюць Англіі вайной, якая магла-б, праўда, зьнішчыць Нямеччыну, але разьбіла-б таксама і імпэрыю брытанскую (англіцкую). —

Англічане гэта добра аднак разумеюць і, ня хочучы чакаць, пакуль на іх немцы нападуць беспасярэдна, заяўляюць, што пытаньне міру ці вайны вырашыцца ў цэнтральнай Эўропе — у Чэхаславаччыне, на якую Нямеччына мелася-б напасьці найперш.

## У гішпанскім катле.

У гішпанскім катле варыцца далей. Пагаласкі аб дагаварываньні да міру ані спраўджаюцца, ані іх хто цалком запярэчвае. Упорныя баі вядуцца перад усім на зямлі баскаў, якіх пераважаючыя сілы паўстанцаў сьціскаюць штораз больш. На іншых франтах заўважваюцца нелады паміж „сваімі“ з аднаго і другога боку. Паўстанцкі генэрал Франко заснаваў сваю фашыстаўскую партыю, у якую хацеў уключыць усіх тых, хто разам з ім сталі ў вайсковыя рады. А калі знайшліся такія, што туды йсьці не хацелі, дык пазамыкаў іх у вастрогі. — Ня ўсё гладка йдзе быццам і ў Каталёніі, дзе да ўлады сілком хочаць дабіцца анархісты. Так ці гэтак а вайна йдзе ўжо цэлых 10 месяцаў і канца ёй ня відаць.

## Бэльгія ўзноў нэўтральная.

Бэльгія была нэўтральнай і прад Сусьветнай Вайной, але Нямеччына зламала гэту нэўтральнасьць у 1914г. Пасьля гэтага Бэльгія была ў саюзе з Францыяй і Англіяй. Увосені 1936 г. вуснамі караля свайго Бэльгія заявілася ўзноў як дзяржава нэўтральная, а саюзьніцы ейныя, Францыя і Англія, 25 красавіка сёл. гэту нэўтральнасьць прызналі, бо... мусілі.

## Нямеччына—Ватыкан.

Ватыкан даручыў 4 г. м. нямецкаму амбасадару адказ на ноту Нямеччыны ў справе папскай энцыклікі (пісьма) аб палажэньні каталікоў у сучаснай Нямеччыне. Зьмест адказу тымчасам не апублікаваны. З тону нямецкай прэсы аднак не выглядае, каб ён быў ім па мыслі. Ня выключана і тое, што конкордат будзе аканчальна сарваны.

## Замест аднаго—тры.

Бальшавіцкая паліцыя (Г.П.У) і далей ня можа справіцца з „выкрываньнем ворагаў.“ Вінавацілі перш за гэта камэнданта ГПУ Ягоду, які цяпер арыштаваны, а ягонае месца заняў Ежов. Але і гэтага аказалася мала, бо вось ужо ў пару Ежова чуць-чуць не забіла Сталіна „пякельная машына,“ устаўленая ў лёжу маскоўскага „Малога Тэатру,“ куды меўся прыехаць Сталін. За гэта тымчасам Ежова йшчэ не арыштавалі, але ўжо далі яму „памацнікоў“ у асобах маршала Егорава і пракурора Вышынскага. У сувязі з арыштаваньнем Ягоды, далей усьцяж арыштоўвуюцца самыя высокія чыны савецкай адміністрацыі. Судовага працэсу Ягоды чакаюць у хуткім часе. Абвінавачваецца ён у тым, што быццам: 1. арганізаваў забойства Сталіна і Варашылава, 2 падгатаўляў уцекі з турмы „троцкістаў“ і бунт чырвонай арміі, 3. знаў наперад аб пляне забойства Кірава, 4. сам хацеў уцячы ў Амэрыку, пераслаўшы туды наперад вялікія сумы грошаў.— На сьледстве Ягода быццам ужо прызнаўся да праступстваў крымінальных, але не прызнаецца да праступстваў палітычных.

## Па выбарах у Японіі.

На выбарах у японскі парлямант 30 м. м. узноў перамаглі праціўнікі сучаснага вайсковага ўраду.

## Замест Грацыяні — Бальбо.

Падчас ведамага нападу на італьянскага віцэ-караля ў Абісыніі маршала Грацыяні, быў ён ранены 16-цю асколкамі кіненых бомбаў. Гэтыя раны дагэтуль ня могуць загаіцца і віцэ-кароль ня можа выконываць сваіх абавязкаў. Апошнім часам пайшлі чуткі, што ранены маршал Грацыяні наагул пойдзе ў адстаўку, а ягонае месца заняў-бы тады генэрал Бальбо.

## Міністр Бэк у Румыніі.

У канцы м. м-ца міністр загранічных спраў Польшчы Бэк езьдзіў у госьці ў Румынію. Газэты пішуць, што міністр езьдзіў у Румынію па тое, каб даведацца тамашнія адносіны да Чэхаславаччыны і да Саветаў. — На гэтым грунце францускія палітыкі вельмі занепакоены, падазраваючы, каб тут не тварыўся ваенны блёк сьціраваны проціў Чэхаславаччыны, Саветаў і Францыі.

## Італьянска-нямецкі саюз.

Апошняя падарож нямецкіх міністраў Герынга, Блёмбэрга і Нойрата ацэньваецца ў палітычным сьвеце як нямінучае заключэньне ваеннага саюзу гэтых дзяржаў. Да вайны, быццам, прэць наўперад Італія, якая думае, што сягоньня яна яшчэ магла-б справіцца з Англіяй на Сярэдземным моры, а заўтра—можа быць усяляк.



Przesyłka opłacona ryczałtem.



# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

— З Бел. Нац. Камітэту. Паседжаньне Прэзыдыуму Беларускага Нацыянальнага Камітэту адбылося дня 5 мая сёл. Разглядалася, паміж іншым, справа ўчасьця Б. Н. Камітэту ў сёлетнім Кангрэсе Нацыянальных Меншасьцяў, які мае адбыцца ад 7 да 9 ліпня ў Лёндыне. Пастаноўлена прыняць учасьце ў Кангрэсе; прадстаўніком ад Б. Н. Камітэту на Кангрэс быў выбраны Кс. А. Станкевіч, які і мае апрацаваць празначаны для беларусаў рэфэрат на тэму „Этычныя асновы культурнага й нацыянальнага разьвіцьця."

На гэтым-жа паседжаньні пастаноўлена расьпісаць абнову Камітэту на 1937-38 год. Аб гэтым прыняты асобны комунікат, які зьмяшчаны на іншым месцы нашага часапісу.

— „Беларускую Крыніцу" ўзноў спынілі судовыя ўлады на прапанову ўладаў адміністрацыйных. Повадам спыненьня была канфіската № 2 „Беларускай Крыніцы" з дня 25.III. сёл.

— Пасьля рэвізіяў. Апошнімі днямі красавіка шмат хто з тых Віленскіх беларусаў, у якіх 28.XI.1936 г. былі паліцыйныя рэвізіі, атрымалі назад часьць дакумантаў забраных у іх падчас рэвізіі. Што будзе з рэштай дакумантаў, — тымчасам няведама.

— Кс. А. Станкевіч, аб хворасьці якога мы пісалі, 30 м. м. вярнуўся у Вільню і прыступіў да працы.

— Памятнікі для беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў ладзіць беларускае грамадзянства. За зьбіраньне ахвяраў на памятнік для Ядвігіна Ш. (Антона Левіцкага) узялася рэдакцыя „Шляху Моладзі" (Вільня, Завальная 1—2), куды і трэба прысылаць усе ахвяры. —

Памятнік над гробам паэткі Цёткі (з Пашкевічаў Алёізы Кейрыс) у Лідчыне ўжо гатовы і будзе пасьвячаны сёлета ў ліпні.

— Новая сіла на беларускім музыкальным полі. Абсольвэнт пэдагогічнае клясы Варшаўскае музычнае консэрваторыі Аўгень Евец прыслаў анагдай у Вільню дзьве сабой-жа згармонізаваныя беларускія народныя песьні, якія Беларускі Хор Р. Шырмы будзе сьпяваць у хуткім ужо часе.

— Новы беларускі часапіс. Пры царкоўным расейскім часапісе „Слово" (Warszawa 4, Paryska 27) пачаў выходзіць месячны беларускі дадатак для дзяцей п. н. "Снапок." Часапіс гэты рэдагуе грам. С. Паўловіч, аўтор беларускіх лемантароў. У асобнай падпісцы часапіс на год каштуе 1 зл., цана асобнага нумару 10 гр. Дастаць можна ў кнігарні "Пагоня" (Вільня, Завальная 1), ва ўсякіх рэдакцыйных справах трэба зварачвацца да рэдактара (Вільня, Папоўская вул. 9—4).

— Беларуская Пілігрымка ў Кальварыю пад Вільняй сёлета пойдзе з касьцёла сьв. Мікалая у нядзелю дня 6 чэрвеня, а гадз. 7 рана. Для ўсіх, хто хоча далучыцца да пілігрымкі, зборны пункт пры вул. Завальнай 1, у рэдакцыі „Chryścijanskaj Dumki." Там-жа можна даведацца і аб начлезе, як для людзей, так і для фурманак. Хто хоча мець начлег запэўнены, добра зробіць, калі напіша аб гэтым наперад у рэдакцыю, падаючы лічбу пілігрымаў і фурманак. Начлег бясплатны.

— Беларускае Культурнае Таварыства ў Варшаве не зацьверджана; ініцыятыўная група падала рэкурс у Міністэрства Унутраных Спраў.

— Канцэрт М. Забэйды ладзіць Бел Студ. Саюз 16 г. м. ў Вільні.

— Беларускае прадстаўленьне ў Рызе адбылося 17.IV. сёл. Ставілася Купалава „Паўлінка." Арганізатарам і гаспадаром вечара быў грам. Мірановіч.

— Беларуская фільгармонія адчынена ў Менску дня 25 красавіка сёл.

## З нашых сёлаў і мястэчак.

— Архэолёгічныя раскопкі дагістарычных курганоў у казённых лясох каля Куранца, Вялейскага пав., будзе вясьці сёлета ўлетку навуковая экскурсыя Віленскага Унівэрсытэту.

— Шкялет мамута на Палесьсі. Пры капаньні студні ў Брашэвіцкай гміне, Драгічынскага пав. работнікі натрапілі на шкялет мамута (агромнага прадпатопнага слана). — Ёсьць гэта на Палесьсі ўжо другі выпадак: у 1935 г. быў знойдзены шкялет мамута пры абноўцы Агінскага каналу.

— Паштальёны на пробу будуць сёлета разнасіць пошту па хатах з поштаў на абшары Вялейскага павету.

— Памярла маючы 123 гады. 18 красавіка сёл. ў в. Красная, Шчучынскага пав. памерла кабета Ганна Рудзьчыха, пражыўшы 123 гады. Да апошняй хвіліны нябожчыца мела добры слух і памяць. Памярла з прастуды, пакідаючы ўнучку, якой ужо... 84 гады.

## У Літоўцаў.

— Гімназія літоўская ў Сьвянцянах, з распараджэньня Віленскай Школьнай Куратoрыі, мае быць зачынена з канцом сёл. школьнага году. Дэлегацыя Бацькаўскага Камітэту гэтай гімназіі езьдзіла анагдай у Варшаву ў Міністэрства Асьветы, каб адлажыць гэта зачыненьне на пазьней. Міністэрства апошняга свайго слова ў гэтай справе тымчасам яшчэ аднак не сказала.

— Рэвізію зрабілі сьледчыя ўлады ў Віленскім Літоўскім Інтэрнаце ім. Д-ра Басановіча і ў кіраўніка гэтага Інтэрнату грам. Бурака. Рэзультаты няведамыя.

— У Бярозу выслалі адміністрацыйныя ўлады двух літоўцаў.

— Выселіцца з граніц Польшчы загадалі адміністрацыйныя ўлады студэнтцы Віленскай Музычнай консэрваторыі Сабаліте.

## У Палякоў.

— Бюджэт Польшчы на час 1.IV. 1937 г. да 1.IV.1938 г. прадбача ў выдатках 2.316.676.479 зл. а ў прыходзе — 2.316.747.702 зл.

— Першы май у Варшаве сёл. не абыйшоўся бяз крывавых ахвяр: на паход жыдоўскіх работнікаў з саюзу "Бунд" напалі некалькі чалавек, якія ні з таго, ні з сяго пачалі страляць у астатнія рады паходу з рэвальвэраў, пасьля кінулі дымныя пэтарды і ў цяклі. На месцы было забіта адно жыдоўскае дзіця і ранена да 10-цёх чалавек. Пазьнейшыя паліцыйныя допыты паказалі, што напасьнікамі былі сябры эндэцкай О. Н. Р. Чатыры чалавекі ўжо арыштаваны.

## У Украінцаў.

— Катэдра украінскай літаратуры мае быць адчынена пры Львоўскім унівэрсытэце ад пачатку наступнага 1937-38 акад. году.

— Судовы працэс „Унакору" у Луцку ішоў ад 27 да 29 красавіка с л. Абвінавачаных 44 чалавекі. З акту абвінавачаньня і ходу самага працэсу выясьнілася, што „Унакор" (украінскі народна-казацкі рух) пачаў сваю напалову легальную дзейнасьць на абшары Валыні ў 1934—35 г., кіруючыся пераважна працiў бальшавікоў. Кіраваў „Унакорам" нейкі Іван Валошын, які жыве ў Нямеччыне. Усе абвінавачаныя засуджаны ў вастрог ад 2 да 8 гадоў. — Як асаблівасьць гэтага працэсу, зазначаюць малое зацікаўленьне ім з боку самых украінцаў.

## З ВІЛЬНІ.

— Знайшлі мэтарлюргічную печ. Пры раскопцы руінаў Горнага Віленскага Замку, 21 красавіка сёл. работнікі натрапілі на мэталюргічную печ, у каторай разаграваўся і пераплаўляўся мэталь, з якога пасьля выраблялiся грошы. Разам з гэтым знойдзены былі кускі бронзу і серабра. Вывучэньнем знойдзеных астаткаў заняўся Архэолёгічны Інстытут Віленскага Унівэрсытэту.

— Спыненыя Саюзы. Віленскі Гарадзкі Стараста 21 красавіка сёл. спыніў („завесіў") дзейнасьць Віленскага Аддзелу Цэнтральнага Саюзу Работнікаў Хэмічнага Промыслу і Віленскі Аддзел Саюзу Працаўнікоў Комунальных Інстытуцый Публічнай Ужыткоўнасьці. Прычына — захоўваньне бясьпечнасьці і публічнага супакою.

Забаранілі. Т-ва Прыяцеляў Бібліятэкі ім. Врублеўскіх у Вільні прыгатаўляла на дзень 6 г. м. „Вечар Песьні і Поэзіі Рэгіянальнай Літоўскай і Беларускай," на якім, між інш., меўся выступіць і ведамы Беларускі Хор пад кіраўніцтвам грам. Шырмы. Адміністрацыйныя улады аднак гэты вечар забаранілі.

## Усячына.

— Коні ў Эўропе. Найболь коняў ёсьць у Польшчы, блізу чатыры мільёны (дакладна 3.9 міл.). Калі-ж гаварыць аб „гушчыні," дык наперад высоўваецца Ірляндыя, дзе на 100 чалавек насельніцтва прыпадае 15 коняў, тады як ў Польшчы гэткіх коняў прыпадае 12 штук. — Пры месцы трэба зацеміць, што „конскае багацьце" тады толькі ёсьць сапраўдным багацьцем, калі гэтыя коні знаходзяць досыць працы. У дробных-жа гаспадарках, дзе няма заработкаў на старане, конь найчасьцей ёсьць непатрэбным цяжарам: лепш там каня наняць у суседа ці прывучыць да гаспадарскай работы скаціну (каровы).

— Два дні без алькаголю. У Францыі заведзены 40-гадзінны работніцкі тыдзень. Работнікі цяпер маюць там больш вольнага часу. Каб гэты час не пайшоў на марнаваньне грошаў у корчмах, Французская Мэдычная Акадэмія падала свайму Ураду праект закону, які забараняў-бы прадаваць алькаголь у суботы і нядзелі.

## ЯК БЫВАЕ У ЖЫЦЬЦІ.

ПРЫКЛАД МАМЫ

Мама: Глядзі, Міхаська, ніколі не мані, бо гэта і прад Богам грэшна і прад людзьмі ня прыгожа.

Сынок (гледзячы ў акно): Мама, цётка Агата йдзе да нас.

Мама: Ай-ей, сынок, я схаваюся, а ты скажы цётцы, што мяне няма дома.

(Паводле „Кооп. Род.")

„Самапомач" выходзіць 10 і 25 кожнага месяца.
ПАДПІСКА на „Самапомач": да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.
Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС"